УДК 327(476:4-470)«1919/1920»

*В. М. БАРОЎСКАЯ*

# СУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ НА БАРЫСАЎСКІМ ЭТАПЕ ПОЛЬСКА-САВЕЦКІХ ПЕРАГАВОРАЎ (снежань 1919 – чэрвень 1920 г.)

Анализируется борисовский этап польско-советских переговоров, который характеризуется постепенным переходом от неофициальных форм дипломатических контактов к официальным средствам решения спорных вопросов. Указывается, что белорусский вопрос сторонами рассматривался в рамках разработанных стратегических линий польского и советского руководств. Отмечается, что осуществление идеи мировой пролетарской революции было главной целью для советской стороны на данном этапе, одним из средств являлась тактика «мирного наступления», что приводило к определенной интерпретации белорусской проблематики. Использование территории Беларуси исключительно в качестве плацдарма революционной борьбы на оккупированных белорусских землях и территории Польши, а также части белорусских политических сил для поддержки своей линии поведения во время планируемых переговоров и военной кампании служило только средством для осуществления поставленной цели. Делается вывод, что польское руководство отдавало предпочтение военным средствам решения спорных вопросов между сторонами, высказывалось за разделение белорусских земель путем включения территорий Гродненской и Виленской губерний в состав Польши и создания на территории Минской губернии так называемого «Белорусского Пьемонта», подчиненного центральному польскому руководству.

***Ключевые слова:*** борисовский этап; польско-советские переговоры; белорусский вопрос; тактика «мирного наступления»; Бюро нелегальной работы; дипломатическая нота; Народный комиссариат иностранных дел РСФСР; мирные условия; Министерство иностранных дел Польши; переговорный процесс.

The article analyzes Borisov stage of the Polish-Soviet negotiations, which is characterized by a gradual transition from informal forms of diplomatic contacts to the official means of settling disputes. It is stated that the Belarusian issue was considered by the parties as part of the strategic lines developed by the Polish and Soviet authorities. It is noted that the implementation of the ideas of the world proletarian revolution is fundamental to the Soviet side at this stage, one of the tools was a tactic of the «peace offensive», which led to a certain interpretation of the Belarusian perspective. Using the territory of Belarus only as a springboard of the revolutionary struggle on the occupied lands of Belarusian and Poland, as well as parts of the Belarusian political forces to support its course of action in time of planned negotiations and military campaign were only the means to implement this goal. As a result, it is concluded that the Polish government to give preference to military means of settling disputes between the parties, was supportive of the division of the Belarusian lands by including the Grodno and Vilnius province into Poland and the creation of the territory of Minsk province of so-called «Belarusian Piemonte», which was subject to the central leadership of the Polish.

***Key words:*** Borisov phase; Polish-Soviet negotiations; Belarusian question; tactics «peace offensive»; Office for illegal work; diplomatic note; The People's Commissariat of Foreign Affairs of the Russian Federation; peaceful conditions; Ministry of Foreign Affairs of Poland; negotiation process.

Барысаўскі этап польска-савецкіх перагавораў характарызуецца паступовым пераходам ад неафіцыйных форм дыпламатычных кантактаў да афіцыйных сродкаў вырашэння спрэчных пытанняў. Змена агульнага фармату ўзаемаадносін адбывалася пад уплывам непасрэдных трансфармацый унутрыпалітычнага жыцця савецкай дзяржавы (разгром войск А. В. Калчака, А. І. Дзянікіна і іншых палітычных сапернікаў) і адначасова трансфармацыяй адносін еўрапейскіх краін да «рускага пытання» (зняцце эканамічнай блакады 16 студзеня 1920 г., спроба наладжвання гандлёвых савецка-англійскіх узаемаадносін). Каардынаванне агульнай лініі паводзін польскага і савецкага кіраўніцтва з існуючай міжнароднай сітуацыяй уплывала на выбар тых ці іншых сродкаў, у тым ліку і дыпламатычных, для дасягнення пастаўленых мэт. Перагаворны працэс з пераходам у афіцыйны фармат адначасова становіцца сродкам прыкрыцця сапраўдных намераў абодвух бакоў, правобразам дыпламатычнай гульні. Беларускае пытанне як комплекс тэрытарыяльных, дзяржаўна-палітычных, ваенных, сацыяльна-эканамічных, культурных праблем, звязаных з лёсам беларускіх зямель, было прадстаўлена ў рамках асобных польска-беларускіх (сакавік 1920 г.) і савецка-беларускіх (красавік – май 1920 г.) перагавораў як частка польскіх мірных умоў лютага – сакавіка 1920 г. і як частка савецкай тактыкі «мірнага наступлення», у якой тэрыторыі Беларусі адводзілася роля плацдарма для арганізацыі рэвалюцыйнай барацьбы на акупіраваных беларускіх землях і тэрыторыі Польшчы. Польскае і савецкае кіраўніцтва аспрэчвалі паміж сабой прыярытэтнае права прадстаўлення беларускіх інтарэсаў на плануемых мірных перагаворах, каб мець магчымасць вырашыць беларускае пытанне ў рамках карыснай для сябе альтэрнатывы.

Вынікам польска-савецкай сустрэчы ў Мікашэвічах (кастрычнік – снежань 1919 г.) стала часовая дамоўленасць аб спыненні ваенных дзеянняў і ўсталяванні дэмаркацыйнай лініі паміж бакамі: Ноўгарад-Валынскі (Звягель) – Алеўск (па лініі Сарны – Ковель) – р. Пціч – Бабруйск з апорай на Бярэзіну – Бярэзінскі канал – р. Дзвіна з утварэннем нейтральнай дзесяцікіламетровай зоны. Сам факт вядзення польска-савецкіх перагавораў у неафіцыйным фармаце, існаванне надзей у савецкім кіраўніцтве на працяг мікашэвіцкіх сустрэч, знаходжанне Ю. Мархлеўскага на станцыі Мікашэвічы да 22 снежня 1919 г. вымушалі Народны камісарыят замежных спраў (НКЗС) РСФСР чакаць з накіраваннем да Польшчы чарговай ноты з мірнымі прапановамі. 21 снежня 1919 г. у тэлеграме Г. В. Чычэрына да А. А. Іофэ была пацверджана рашучасць савецкага кіраўніцтва ажыццявіць пераход ад неафіцыйных спосабаў перагавораў да афіцыйных форм: шляхам накіравання ноты да польскага ўрада. Па меркаванню Чычэрына, факт накіравання мірнай прапановы вельмі спрыяльна мог паўплываць «на рост выступленняў рабочых арганізацый і левых элементаў у падтрымку міру і Савецкай Расіі»[1].

22 снежня 1919 г. СНК РСФСР на імя ўрада Польшчы накіраваў ноту з прапановай пачатку перагавораў з мэтай заключэння мірнага дагавора паміж рэспублікамі і спынення ваенных дзеянняў, якія вядуцца выключна дзеля задавальнення замежных інтарэсаў[2]. Непасрэднага афіцыйнага адказу

ад польскага ўрада або Міністэрства замежных спраў не паступіла, аднак на старонках польскага перыядычнага друку пачалі з'яўляцца артыкулы, якія закраналі ці патрабавалі вырашыць пытанне мірнага ўрэгулявання з Савецкай Расіяй[3].

Сітуацыя на Паўночна-Заходнім і Паўднёва-Заходнім франтах не адрознівалася стабільнасцю, у кожны момант чакаўся пачатак ваеннага наступлення як польскіх войск, так і войск Чырвонай Арміі. У сувязі з гэтым савецкае кіраўніцтва вымушана было аб'явіць усталяванне дэмаркацыйнай лініі, якой павінны былі прытрымлівацца ў першую чаргу войскі Чырвонай Арміі, каб прадухіліць магчымасць выпадковых сутыкненняў, выкліканых правакацыяй аднаго з бакоў[4]. Паведамленне з рашэннем усталяваць дэмаркацыйную лінію на польска-савецкім фронце і з прапановай пачаць мірныя перагаворы, вырашыць усе спрэчныя пытанні шляхам заключэння дагавора было агучана 28 студзеня 1920 г. СНК РСФСР у «Заяве аб асновах савецкай палітыкі ў адносінах да Польшчы». У патаемнай запісцы Г. В. Чычэрына ад 14 лютага 1920 г. паведамляюцца асноўныя прынцыпы палітыкі ў адносінах да Польшчы, якая заключалася ў пазбяганні любога наступлення савецкага боку, каб перакласці віну за магчымы пачатак ваеннай кампаніі на польскі бок і тым самым уздзейнічаць на псіхіку пэўных польскіх элементаў[5].

9 лютага 1920 г. на восьмым пасяджэнні прэзідыума ЦК КП ЛіБ была прынята Дэкларацыя ЦК КП ЛіБ адносна заявы РСФСР да Польшчы, у якой абвяшчалася ўсебаковая падтрымка дзеянняў знешнепалітычных акцый РСФСР, змест якіх утрымліваўся ў нотах СНК да ўрада Польшчы ад 22 снежня і 28 студзеня 1920 г., а менавіта «добраахвотная адмова ад часткі беларускіх зямель ад Заходняй Дзвіны да Бярэзіны ў імя ажыццяўлення ідэй сусветнай пралетарскай рэвалюцыі»[6].

У сувязі з магчымым польскім наступленнем Л. Д. Троцкі раіў У. І. Леніну, М. М. Красцінскаму, Р. Я. Зіноўеву прыняць неадкладныя меры па мабілізацыі польскіх камуністаў і накіраванні іх на Заходні фронт, па распаўсюджванні друкаваных выданняў на польскай мове[7], пры гэтым прыняцце пэўных мер па непасрэднаму ўмацаванню Заходняга фронту не прадугледжвалася. Стаўка савецкага кіраўніцтва рабілася не на ваенныя сродкі, а выключна на пашырэнне агітацыйных метадаў, на ажыццяўленне так званага «мірнага наступлення».

Тактыка «мірнага наступлення» – комплекс стратэгічных мерапрыемстваў, накіраваных на рэалізацыю ідэі сусветнай рэвалюцыі шляхам правядзення агітацыйна-прапагандысцкіх акцый, як супрацьвага ваенным сродкам дасягнення пастаўленай мэты. Ключавымі формамі выступалі мірныя перагаворы з краінамі Прыбалтыкі (Тартускі мірны дагавор з Эстоніяй 2 лютага 1920 г., Маскоўскі мірны дагавор з Літвой 12 ліпеня 1920 г., Рыжскі мірны дагавор з Латвіяй 11 жніўня 1920 г.), з Фінляндыяй (Тартускі мірны дагавор 14 кастрычніка 1920 г.), шматразовыя мірныя прапановы да Польшчы, вядзенне шырокай нелегальнай працы ў прыфрантавой зоне, на акупіраваных беларускіх землях праз Бюро нелегальнай працы, шляхам арганізацыі польскай камісіі пры палітычным аддзеле Заходняга фронту для вядзення арганізацыйнай і палітычнай працы сярод байцоў польскага войска. Як вынік – арганізацыя шырокага забастовачнага руху ў некаторых еўрапейскіх краінах: стварэнне Камітэта дзеяння ў Вялікабрытаніі, выступленні рабочых Лодзі, Скернявіца, Сасноўца і іншых гарадоў Польшчы за хутчэйшае заключэнне міру з Савецкай Расіяй, супраць працягу ваенных дзеянняў.

Бюро нелегальнай працы было створана згодна з рашэннем ЦК КП ЛіБ ад 18 студзеня 1920 г., афіцыйна падпарадкоўвалася Рэвалюцыйна-ваеннаму савету Заходняга фронту, а непасрэдна І. С. Уншліхту. Асноўнай мэтай стварэння гэтага Бюро было намаганне распаўсюдзіць рэвалюцыйны рух шляхам вядзення шырокай агітацыйнай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы[8]. У запісцы І. С. Уншліхта ў ЦК РКП(б) адзначалася, што росту рэвалюцыйнага руху на тэрыторыі Беларусі будзе садзейнічаць варожасць да польскіх войск, якая пануе сярод мясцовага сялянства, створанае Бюро нелегальнай працы стане пэўным арганізацыйным цэнтрам па абодвух баках фронту[9].

У брашуры «Тэзісы аб захопе ўлады ў Беларусі і Літве» адзначалася, што «поспех рэвалюцыйнага руху ў Літве і Беларусі залежаў ад асноўных форм узаемаадносін Польшчы і Савецкай Расіі (узброеная барацьба або мір), ад маштабаў развіцця рэвалюцыйнага руху ў Польшчы». Такім чынам, устанаўлівалася прамая ўзаемазалежнасць развіцця рэвалюцыйнага руху на тэрыторыі Літвы і Беларусі з выступленнямі ў Польшчы. Планавалася, што літоўска-беларускія рэвалюцыянеры з самага пачатку мірных польска-савецкіх перагавораў або чарговага польскага наступлення змогуць падняць узброенае паўстанне і вызваліць тэрыторыю Літвы і Беларусі, «прымусіць Польшчу ад іх (тэрыторый) адмовіцца»[10].

У адзначаны адрэзак заўважаюцца змены ва ўнутранай тактыцы савецкага кіраўніцтва на шляху рэалізацыі ідэй сусветнай пралетарскай рэвалюцыі ад адкрытых ваенных акцый да большага выкарыстання агітацыйных метадаў, фарміравання нелегальных арганізацый. Адначасова з накіраваннем нот урада РСФСР на адрас польскага кіраўніцтва з прапановамі пачатку мірных перагавораў савецкае кіраўніцтва прымае меры па ўзмацненню нелегальнай рэвалюцыйнай працы ў прыфрантавой і акупіраванай зоне з намерам вызваліць занятыя польскімі войскамі тэрыторыі шляхам шырокага рэвалюцыйнага руху. Пры спрыяльных умовах рэвалюцыйны рух распаўсюджваўся на тэрыторыю Польшчы. Такім чынам, беларускія землі станавіліся цэнтрам актыўнай рэвалюцыйнай, прапагандысцкай працы. Паводле сцверджанняў У. І. Леніна, у верасні 1920 г. на IX Усерасійскім з'ездзе РКП(б) тэрыторыя Беларусі, якая актыўна падвяргалася камуністычнай прапагандзе, павінна стаць рэвалюцыйным паскаральнікам для Польшчы і Заходняй Еўропы ў цэлым. У залежнасці ад вынікаў развіцця рэвалю-

цыйнай барацьбы ў Польшчы ставілася беларускае пытанне, якое планавалася вырашыць «не шляхам зброі, а выключна толькі шляхам развіцця барацьбы ўнутры Польшчы»[11].

2 лютага 1920 г. да польскага народа быў накіраваны зварот УЦВК РСФСР. Савецкае кіраўніцтва прапаноўвала распачаць перагаворы з мэтай ліквідаваць «варожасць польскага народа да рускага народа», пацвердзіць міралюбівы характар сваёй знешняй палітыкі, даказаць адсутнасць варожых імкненняў у адносінах да Польшчы, а таксама нежаданне замацоўваць камуністычныя ідэалы ваеннымі сродкамі. Аналагічным зместам адрозніваўся зварот НКЗС РСФСР да працоўных мас дзяржаў Антанты ад 10 лютага 1920 г. з заклікам спыніць варожыя памкненні да Савецкай Расіі, выступаць супраць яе правядзення сваімі ўрадамі.

Пад уплывам накіравання адзначаных савецкіх нот 4 лютага 1920 г. на адрас НКЗС РСФСР паступіла нота МЗС Польшчы, якая паведамляла, што зварот савецкага ўрада атрыманы і будзе разгледжаны і адказ будзе дадзены савецкаму боку ў бліжэйшы час. Пры Міністэрстве замежных спраў Польшчы была створана спецыяльная Камісія па выпрацоўцы адказу на савецкія прапановы, у склад якой увайшлі С. Патэк (міністр замежных спраў), Л. Васілеўскі (пасол Польшчы ў Эстоніі), Я. Гутоўскі (сакратар, супрацоўнік міністэрства). У выніку камісіяй 11 лютага 1920 г. былі агучаны «Асновы пачатковых умоў для пачатку мірных перагавораў з савецкім урадам». Фактычна прапанаваныя ўмовы ў выніку іх прыняцця прыводзілі б да рэалізацыі ідэі федэралістычнай польскай дзяржавы ў межах 1772 г. з уключэннем у яе склад літоўска-беларуска-ўкраінскага абшару. Рэалізацыя ідэі самавызначэння нацый былой Расійскай імперыі адбывалася шляхам прызнання савецкім бокам незалежнасці нацыянальных дзяржаўных утварэнняў і вываду войск Чырвонай Арміі з гэтых тэрыторый. Пад эгідай польскага боку ажыццяўлялася часовае кіраванне зямель у межах 1772 г. і арганізацыя працэсу самавызначэння (шляхам плебісцыту). Таксама прадугледжвалася кампенсацыя Польшчы ўсіх страт, нанесеных з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай; страт, нанесеных маёмасці польскіх грамадзян з 1914 г. Немалаважным з'яўлялася патрабаванне спынення любой агітацыі і прапаганды з савецкага боку[12]. Умовы адлюстроўвалі максімальныя патрабаванні польскага боку, прыняцце якіх РСФСР аўтаматычна пераводзіла яе ў разрад пераможанай краіны, азначала канчатковую адмову ад ідэі сусветнай пралетарскай рэвалюцыі. Дыктат непрымальных умоў для савецкага боку адлюстроўваў намер польскага кіраўніцтва працягваць ваенныя дзеянні і пры гэтым не выглядаць агрэсарам у вачах еўрапейскай грамадскасці. 8 сакавіка 1920 г. на пасяджэнні Савета Міністраў Польшчы мірныя ўмовы былі пэўным чынам рэдагаваны, акрамя вызначэння лініі 1772 г. у якасці максімальнай была вызначана мінімальная лінія размежавання: Збруч – Стыр – Гарынь – на поўнач ад былой мяжы з Валынскай губерняй – Днепр – Ула – Заходняя Дзвіна – Дзвінск. У выпадку прыняцця савецкім бокам максімальнай лініі прадугледжвалася правядзенне пад эгідай Польшчы свабоднага волевыяўлення мясцовага насельніцтва на спрэчных тэрыторыях, у выпадку прыняцця мінімальнай лініі кожны з бакоў самастойна павінен вырашыць пытанне самавызначэння нацый[13].

Змест «Асноў пачатковых умоў» некалькі разыходзіўся з вынікамі сустрэч Ю. Пілсудскага з Б. В. Савінкавым (старшыня Рускага палітычнага камітэта ў Варшаве) і М. В. Чайкоўскім (прадстаўнік Паўднёвага ўрада А. І. Дзянікіна) 16–20 студзеня 1920 г. Згодна з умовамі Варшаўскага дагавора 18 студзеня 1920 г. Польшча ўзяла на сябе абавязак падтрымліваць барацьбу антысавецкіх сіл у Расіі і павінна была адмовіцца ад памкненняў узнаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Расійскія палітыкі, у сваю чаргу, адмаўляліся ад жаданняў узнаўлення Расійскай імперыі ў межах 1 жніўня 1914 г. і згаджаліся прызнаць незалежнасць Фінляндыі, Украіны, Латвіі, Эстоніі, а таксама правесці плебісцыт адносна дзяржаўнай прыналежнасці зямель Беларусі і Літвы. Польскія тэрытарыяльныя патрабаванні былі значна зменшаны, азначалі б адмову ад федэралістычнай ідэі на карысць інкарпарацыяністам; тэрыторыя Беларусі ў выніку заставалася падзеленай паміж Польшчай і адроджанай Расіяй. Аднак шырока прапагандаваны прынцып волевыяўлення мясцовага насельніцтва (шляхам правядзення плебісцыту) не быў распаўсюджаны на беларускія землі. Беларускае пытанне прадугледжвалася вырашыць шляхам надання права самакіравання і свабоднага культурнага развіцця ў рамках тэрыторыі Мінскай губерні, землі Віленскай і Гродзенскай губерняў прадугледжвалася далучыць да польскай дзяржавы[14].

Польская пазіцыя адносна беларускага пытання была сугучна з рашэннямі польска-беларускіх перагавораў у Мінску 20–24 сакавіка 1920 г. З 25 патрабаванняў беларускіх прадстаўнікоў (В. Іваноўскі, Я. Лёсік, А. Станкевіч, А. Смоліч, А. Уласаў, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Сярада, А. Цярэшчанка) толькі 10 былі прыняты польскімі дзеячамі (Л. Васілеўскім, У. Рачкевічам, С. Ваявудскі). Адхілены былі такія важныя для развіцця беларускай справы пытанні, як абарона цэласнасці і непадзельнасць тэрыторыі Беларусі[15]. Як адзначаў Л. Васілеўскі ў справаздачы аб польска-беларускіх перагаворах, вынікам адзначаных сустрэч было атрыманне падтрымкі ад беларускіх дзеячаў, што магчыма будзе выкарыстаць на плануемых польска-савецкіх перагаворах. Такім чынам, польскі бок імкнуўся атрымаць прыярытэтнае права прадстаўлення беларускага пытання ў супрацьвагу збліжэнню РСФСР з дзеячамі левай накіраванасці БПСР перагавораў, якія адбыліся 1–8 красавіка 1920 г. у Маскве (П. Бадунова), 15–28 красавіка 1920 г. (Я. Маркевіч, В. Ластоўскі, Я. Чарапук) у Рэвелі[16]. У сувязі з названымі сустрэчамі ў красавіку 1920 г. у Маскву з Смаленска быў камандзіраваны А. Р. Чарвякоў «як чалавек, які найбольш інфарміраваны ў ходзе беларускіх спраў», але які павінен быў атрымаць неабходныя даручэнні ад НКЗС РСФСР[17]. Перагаворы дзеячаў БНР з прадстаўнікамі РСФСР кожны з бакоў выкарыстоўваў дзеля дасягнення сваіх мэт. Так, беларускія прадстаўнікі разглядалі сустрэчы толькі як сродак прызнання БНР у яе этнаграфічных межах,

атрымання допуску да плануемых польска-савецкіх перагавораў у Барысаве. Беларуска-савецкія сустрэчы для савецкага боку служылі своеасаблівым разведвальным плацдармам, з дапамогай якога неабходна было даведацца аб ваеннай рэальнай сіле беларускага нацыянальнага руху, яе ўдзеле ў новым вітку польска-савецкага сутыкнення. Магчымасць прызнання БНР у яе этнаграфічных межах савецкім урадам і пытанне допуску беларускай дэлегацыі да польска-савецкіх перагавораў ставіліся ў прамую залежнасць ад пазіцыі Польшчы. Верагоднасць прызнання незалежнасці тэрыторыі Беларусі мелася толькі ў тым выпадку, калі яна выступала як супрацьвага польскім патрабаванням правядзення размежавання па лініі 1772 г.

Падзел беларускага руху не толькі ў ідэйным, а ўжо ў арганізацыйным плане (фактычны раскол на пасяджэнні 13 снежня 1919 г. і, як вынік, утварэнне Найвышэйшай Рады БНР і Народнай Рады БНР) значна аслабіў пазіцыі беларускага пытання на міжнароднай арэне. Так, прадстаўнік БНР у Францыі Я. Ладноў у лісце да А. Луцкевіча негатыўным чынам характарызаваў вынікі пасяджэння 13 снежня 1919 г., называючы іх правакацыяй польскіх улад, якая павінна «знізіць значэнне пратэсту БНР супраць заключэння міру паміж Польшчай і Савецкай Расіяй»[18]. Нягледзячы на складанасць унутрыпалітычнай сітуацыі, дзеячы БНР 10 красавіка 1920 г. накіравалі ноты-пратэсты на адрас РСФСР, Польшчы, краін Антанты з патрабаваннем дапусціць беларускіх прадстаўнікоў на польска-савецкія перагаворы. Пры гэтым у нотах пратэсту да краін Антанты, міністра замежных спраў Польшчы, народнага камісара замежных спраў РСФСР віна за нядопуск беларускіх прадстаўнікоў на перагаворы ўскладваецца выключна на польскае кіраўніцтва. Патрабаванні аб допуску да перагавораў і прызнанні незалежнасці БНР у яе этнаграфічных межах утрымліваліся ў ноце на адрас Народнага камісарыята замежных спраў РСФСР ад 25 красавіка 1920 г. Ад імя Г. В. Чычэрына 26 красавіка 1920 г. паступіў неадназначны адказ са сцверджаннем «аб прызнанні прынцыпу нацыянальнага самавызначэння, інтэрпрэтуючы яго ў самым шырокім сэнсе», што значна абнадзеіла беларускіх прадстаўнікоў, якія бачылі ў гэтым адказе частковае прызнанне незалежнасці.

27 сакавіка 1920 г. на адрас Народнага камісарыята замежных спраў РСФСР ад Міністэрства замежных спраў Польшчы паступіла нота са згодай пачаць мірныя перагаворы з 10 красавіка 1920 г. у Барысаве. Польскі бок прапаноўваў спыніць ваенныя дзеянні выключна ў сектары перадмаставога ўмацавання Барысава за 24 гадзіны да прыбыцця рускіх упаўнаважаных. На наступны дзень ад савецкага боку была атрымана нота, у якой утрымлівалася просьба аб распаўсюджванні перамір'я на ўвесь адрэзак фронту. Выбар месца для плануемых перагавораў засноўваўся на стратэгічных разліках абодвух бакоў. Так, згодна з пазіцыяй савецкага кіраўніцтва польская прапанова аб вядзенні перагавораў у Барысаве з адначасовым спыненнем ваенных дзеянняў выключна ў сектары перадмаставога ўмацавання мела на мэце скаваць сілы Чырвонай Арміі на Паўночна-Заходнім фронце, каб атрымаць перавагу фактычных ваенных сіл на паўднёвым участку, што прама ўказвала на намер Польшчы працягваць ваенныя дзеянні, а не ўступаць у перагаворны працэс[19]. Далейшая дыпламатычная польска-савецкая перапіска (1, 2, 23 красавіка 1920 г.) зводзілася да ўдакладнення месца перагавораў (Петраград, Масква, Варшава, горад у Эстоніі, Беласток, Гродна) і ўсталявання перамір'я на ўсім адрэзку фронту або на канкрэтным яго ўчастку. Згодна з запіскай І. С. Уншліхта ў ЦК РКП(б) ад 25 красавіка 1920 г. паведамлялася, што факт вядзення польска-савецкіх перагавораў у населеным пункце, размешчаным на тэрыторыі Літвы або Беларусі, дадатна паўплывае на агульную рэвалюцыйнасць мас[20].

Безвыніковасць адзначанай перапіскі яскрава адлюстроўвалі нежаданне бакоў распачынаць перагаворны працэс, ажыццяўленне выбару на карысць ваеннай альтэрнатывы. У тэлеграме Л. Д. Троцкага Э. М. Склянскаму ад 9 сакавіка 1920 г. адзначалася, што прасоўванне польскіх войск неабходна інтэрпрэтаваць дваяка: або як жаданне пачаць перагаворы, але пасля дасягнення пэўнай лініі, або як правакаванне савецкага боку для пачатку ваенных дзеянняў, каб выставіць Савецкую Расію ў якасці агрэсара. Таму пазіцыя савецкага кіраўніцтва адносна пачатку ваеннага наступлення характарызавалася надзвычайнай асцярожнасцю, накіравана была на працяг ажыццяўлення тактыкі «мірнага наступлення». Безвыніковасць мірных ініцыятыў абодвух бакоў, нежаданне ісці на ўступкі адзін аднаму, выбар на карысць ваенных метадаў вырашэння спрэчных пытанняў выклікалі ўслед за ваеннай кампаніяй польскіх войск на ўкраінскіх землях планамерныя ваенныя акцыі войск Чырвонай Арміі ў маі – чэрвені 1920 г. на Паўночна-Заходнім фронце (р. Заходняя Дзвіна ў раёне Дзісна – Полацк – Ула – р. Бярэзіна) і ў ліпені 1920 г. на ўсім Заходнім фронце. Беларускае пытанне бакамі разглядалася ў рамках распрацаваных стратэгічных ліній польскага і савецкага кіраўніцтваў. Накіраванасць усіх сродкаў савецкага боку для ажыццяўлення ідэі сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, у тым ліку і тактыкі «мірнага наступлення», прыводзіла да своеасаблівай інтэрпрэтацыі беларускай праблематыкі на барысаўскім этапе польска-савецкіх перагавораў. Выкарыстанне тэрыторыі Беларусі выключна ў якасці плацдарма рэвалюцыйнай барацьбы на акупіраваных беларускіх землях і тэрыторыі Польшчы, часткі беларускіх палітычных сіл для падтрымкі сваёй лініі паводзін падчас плануемых перагавораў і ваеннай кампаніі служыла толькі сродкам для ажыццяўлення пастаўленай мэты. Польскае кіраўніцтва, якое больш схілялася да ваенных метадаў вырашэння спрэчных пытанняў паміж бакамі, яскрава прадставіла сваю пазіцыю да беларускага пытання ў рамках варыянта польскіх мірных умоў 8 сакавіка 1920 г. і польска-беларускіх перагавораў 20–24 сакавіка 1920 г., якая зводзілася фактычна да падзелу беларускіх зямель шляхам уключэння тэрыторый Гродзенскай і Віленскай губерняў у склад Польшчы і ўтварэння на тэрыторыі Мінскай губерні так званага «Беларускага П'емонту», падпарадкаванага цэнтральнаму польскаму кіраўніцтву.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Архив внешней политики Российской Федерации (АВП РФ). Ф. 04. Оп. 32. Д. 10. Л. 33.
[2] Гл.: Документы внешней политики (ДВП) СССР: в 24 т. / Г. К. Деев и др. М., 1958. Т. 2. С. 312–313, 331–333.
[3] Гл.: Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich: w 41 t. / W. Gostyńska. Warszawa, 1961. T. 2. S. 533–534.
[4] Гл.: АВП РФ. Ф. 04. Оп. 32. Д. 22. Л. 1–3.
[5] Гл.: Польско-советская война 1919–1920 (ранее не опубликованные документы и материалы): в 2 ч. / И. И. Костюшко и др. М., 1994. Ч. 1. С. 45–46.
[6] НАРБ. Ф. 4п. Оп. 1. Д. 160. Л. 1–2.
[7] Гл.: Польско-советская война 1919–1920… С. 43.
[8] Гл.: НАРБ. Ф. 4п. Оп. 1. Д. 158. Л. 2–4.
[9] Гл.: Польско-советская война 1919–1920… С. 68.
[10] НАРБ. Ф. 4п. Оп. 1. Д. 158. Л. 3.
[11] Полное собрание сочинений В. И. Ленина: в 55 т. / В. А. Горбунов и др. М., 1981. Т. 41. С. 164, 167.
[12] Гл.: ДВП СССР: в 24 т. / Г. К. Деев и др. М., 1958. Т. 2. С. 355–357.
[13] Гл.: Ratai M. Pamiętniki 1918–1927. Warszawa, 1965. S. 80.
[14] Гл.: Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich: w 41 t. T. 2 / W. Gostyńska. Warszawa, 1961. S. 583–585, 638–641.
[15] Гл.: Gomółka K. Rozmowy polsko-białoruskie (marzec 1920 r.) // Dzieje najnowsze. 1988. S. 3–13.
[16] Гл.: Лазько Р. Беларуска-савецкія перагаворы 1920 г. // Białorus w XX stuleciu w kręgu kultury i polityki. Toruń, 2007. S. 325–337.
[17] Гл.: НАРБ. Ф. 8. Оп. 1. Д. 7. Л. 58.
[18] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі: у 2 кн.: Кн. 1. 1917–1920 гг. / С. Шупа. Вільня; Нью-Ёрк; Менск; Прага, 1998. С. 657.
[19] Гл.: НАРБ. Ф. 368. Оп. 1. Д. 24. Л. 7, 10.
[20] Гл.: Радек К. Третий год борьбы Советской республики против мирового капитала. М., 1924. С. 16.

Паступіў у рэдакцыю 22.02.13.

***Вольга Мікалаеўна Бароўская*** – аспірантка аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Навуковы кіраўнік – доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі А. М. Літвін.

*УДК 940.5:32*

*Е. А. ГРЕБЕНЬ*

## СОЦИАЛЬНЫЕ АСПЕКТЫ НАЦИСТСКОЙ ОККУПАЦИОННОЙ ПОЛИТИКИ В БЕЛАРУСИ

На основе материалов областных архивов рассматриваются социальные аспекты нацистской оккупации Беларуси. Характеризуется положение пенсионеров, инвалидов, воспитанников детских домов и других социально незащищенных категорий граждан. Отмечается, что война и оккупация привели к резкому ухудшению материального положения населения Беларуси. Делается вывод, что тратившиеся коллаборационной администрацией на социальные нужды скудные средства практически не облегчали катастрофического положения социально незащищенных категорий граждан.

***Ключевые слова:*** социальные аспекты; нацистская оккупация.

Social aspects of the Nazi occupation of Belarus are considered in the article on the materials of regional archives. The position of pensioners, disabled people, orphans and other unprotected groups of citizens is characterized. The author notes that the war and occupation has led to a great deterioration in the income status of the population of Belarus. It is concluded that that scarce funds, spend collaboration administration for social needs hardly eased the catastrophic situation of socially vulnerable categories of citizens.

***Key words:*** social aspects; the Nazi occupation.

Социальные аспекты нацистской оккупации Беларуси отечественными и зарубежными исследователями рассматривались фрагментарно, предпринимались лишь попытки изучения проблемы на локальном уровне[1]. В то же время, учитывая огромный массив источников, нет оснований считать данную проблему закрытой. Целью статьи является реконструкция социальных последствий нацистской оккупации на основе впервые вводимых в научный оборот архивных документов.

Война и оккупация привели к резкому ухудшению материального положения населения Беларуси; многие граждане лишились имущества. На грани выживания оказались даже молодые, здоровые трудоспособные женщины. В первые месяцы оккупации появилась безработица, мужчины-кормильцы были в армии. В исключительно сложной ситуации оказались малообеспеченные граждане, чьи мизерные пенсии и пособия обрекали их на полуголодное существование. Помимо тотального дефицита продуктов питания проблему составляла покупка промышленных товаров, цены на которые на черном рынке для абсолютного большинства граждан были недоступны, а в государственных магазинах купить одежду и обувь было практически невозможно. В сложившейся ситуации малоимущие граждане могли только апеллировать к коллаборационной администрации с просьбой о помощи. Прошения датированы уже концом августа – сентябрем 1941 г. Среди просителей оказалось много женщин с малолетними детьми, чьи мужья были мобилизованы в армию, и вдов, которые апеллировали к местной администрации с просьбой предоставить продуктовый паек, выделить участок земли, обеспечить работой[2].

Для многих граждан возникла проблема уплаты налогов. Отдел народного призрения Оршанской городской управы в письме к бургомистру 24.03.1942 г. отмечал, что в довоенное время пенсионеры и инвалиды пользовались льготами по разным видам налогов, от которых освобождались частично или полностью, и что военное лихолетье ухудшило положение таких категорий граждан, в довершение всего